MŪSŲ ŠAUKSMAS

Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# НАШ ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая часопісь





КОЎНА. ∴ ∴ ∴ ∴ ∴ ∴ ∴ 1926.

Kaina 1 lt.

F. Sokolovskienės ir G. Lano spaustuvė Kaune. Tel. 793.

# Зьмест.

стр.

**Перэдавіца:**

Новый Сойм і палітычная сітуацыя. . . . . . . . 1

Аб арыянтацыях. . . . . . . . . . . . . . . . 4

Палітычныя перспэктывы арыянтацыі. . . . . . . 6

Эканамічныя перспэктывы арыянтацыі. . . . . . . 9

Эканамічная палітыка і арыянтацыі . . . . . . . 11

Беларусы і Літоўцы. . . . . . . . . . . . . . 12

Беларусы і Пілсуцкі . . . . . . . . . . . . . 14

Беларусы Літвы. . . . . . . . . . . . . . . . 16

*Пуцята.*

**Справа Вільні.** . . . . . . . . . . . . . . 17

Верш. *Язэпа Пушчы.* . . . . . . . . . . . . . 20

**Ня плач, матанька!** *А. Палын.* . . . . . . . 21

**Выбарчая кампанія і яе вынікі.** *Лазінка.* . . . 24

**З поэмы „Босыя на вогнішчы".** *Міхась Чарот.* . . . 31

**Беларускае жыцьцё:**

Літва. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 32

Радавая Беларусь. . . . . . . . . . . . . . . 34

Заходн. Беларусь . . . . . . . . . . . . . . . 38

Латвія. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 41

Чэхаславакія. . . . . . . . . . . . . . . . . 41

# Новый Сойм
# и палітычная сітуацыя.

Сойму новаго складу і Ўраду выпала на долю вырашэньне найгалоўнейшых пытаньняў у справе гаспадарска-дзяржаўнага будаўніцтва Літвы. Да ўлады падайшлі новыя грамадзкія колы з новай ідэалёгіяй, якую (каб спраўдзіць kredo сваіх выбаршчыкаў) павінны будуць праводзіць ужыцьцё—даць свае каррэктывы ва ўнутраны лад дзяржавы.

Сучаснае міжнарадовае становішча так сама не пашкадавала новых прадстаўнікаў літоўскага народу. Падзеі апошняга часу накінулі на плечы народных выбранцаў непамерна цяжкія абавязкі. — **Новаму Сойму прыдзецца на даўгі час акрэсліць, выявіць палітыку Літвы — выбраць арыянтацыю.**

Нас беларусаў як сучаснай, так і акупаванай Літвы вельмі датычацца і цікавіць: ў якім кірунку пойдзе, маючая ўсталіцца, палітыка Літвы. На падставе мінулага мы ўжо ведаем, што ад таго або іншага напрамку літоўскай палітыкі ў значнай меры залежыць становішча беларускай справы і больш таго, доля беларускага жыхарства Літвы. Вось чаму мы павінны з поўнай увагай падыйсьці да разгляду сучаснай палітычнай сітуацыі і высьвятліць перспэктывы той або іншай арыянтацыі з пункту гледжаньня як літоўскіх дзяржаўных інтэрасаў, так і літоўска-беларускіх адносін.

Пытаньне аб арыянтацыях вельмі няпрыемнае і дражлівае, маючы шмат персаналізму (асабліва ў стасунку беларускай справы) пытаньне.

Грамадзка — палітычныя працаўнікі звычайна адмаўляюцца акрэсляна гаварыць аб арыянтацыі, не жадаючы публічна фіксаваць сваю тактыку, і тым абмяжовываць колы сваіх уплываў і асягненьняў.

Мы не належым да такіх і ня лічым патрэбным хавацца за шырму, а падыходзім да справы з адкрытым забралам.

На запытаньне аб арыянтацыі беларускія грамадзка палітычныя дзеячы звычайна адказвалі так: „Я арыянтуюся на свой народ.“ Па істоце такі адказ — або ўвёртка (па прынцыпу — „мая хата з краю, я нічога не знаю“, а разам з тым падвясьці рахунак выкарыстываемым „маткам“), або не сьвядомасьць. — Кожны грамадзкі працаўнік павінен браць пад увагу моц народу і яго карысьць (бо інакш гэта не грамадзкі працаўнік). — **Пры запытаньні аб арыянтацыі дамагаюцца адказу** не на гэта, само па сабе зразумелае, а на тое — ў **якую сістэму сіл вы жадаеце ўвясьці запраўдныя силы і рэсурсы народу дзеля зьдейсьненьня маючыхся перспэктыў у паляпшэньні агульнага дабрабыту краіны — народу; бо арыянтацыя на сябе — імкненьне апынуцца аднаму супроць усих; тактыка ізаляцыі ад усяго сьвету — недарэчнасьць, палітычны абсурд, або папросту „далой з кону“, што асабліва не прыемна ў час, калі „на розыгрыш ставіцца ўся ваша маёмасьць“**—істота нацыянальнай справы.

Мэта наша (беларускіх нацыяналістаў, якія імкнуцца да усталеньня літоўска-беларускага супрацоўніцтва) з поўнай шчырасьцю выказаць свае думкі і пераконаньні па дыскутаванаму пытаньню аб надыходзячым акрэсленьні літоўскай арыянтацыі.

Сучасныя падзеі літоўскага жыцьця прыцягваюць Літву да адказнай справы, бо беспасрэдня датычуцца істотных інтэрасаў Літвы, і народным выбранцам прыдзецца акрэсліць лінію дзяржаўнай палітыкі. Volens nolens прыдзецца кінуць камплекс нацыянальных сіл на бок тае або іншае (з яскрава выявіўшыхся, робячых міравую палітыку) старон. Міравая палітыка чакае — „do, ut des“ — Літвы.

Што-ж сталася на міравым палітычным кругазоры?

**Ў Польшчы выбухла, праведзенная пад дзіктоўку Пілсуцкім, завіруха і ўскрыла, выявіла не нармальнае становишча** спадчыны польскага імперыялізму — небясьпеку для мірнага існаваньня суседзяў Польшчы.

Запраўды, чаму гэта ў зьвязку з ні'бы ўнутранай польскай справай (пераменай персанажаў улады) Румынія абвесьціла агульную мабілізацыю; зьявіліся падазрэнныя непаразуменьні з прзывам запасных у Рызе; распаўсюджыліся плёткі, што літоўцы пашлі ў Вільню, што заварушыўся Менск, што няпэўна з Данцыскім карыдорам і г. п.

Што за прычына, вызваўшая гэткі непакой, палоханьне суседзяў Польшчы?

**Выбух Пилсуцкага зрабіў жыцьцёвую паверку трываласьці статуса на ўсходзе Эўропы і адразу выявіўся меючыся ў арганізме Еўропы гнайнік, марны нашчатак Версаля і Рыгі, пагражаючы сваім існаваньнем Эўрапейскаму міру. Выявіўся узгадаваны імперыялізмам Польшчы гаручы матэрыял, які толькі чакае належнай іскры, каб крівавае зарава запылала па ўсёй Эўропе. Усьвядамлёныя жыцьцём эўрапейскія палітычныя колы не маюць права на-далей „умываць рукі“ ад гэтай небясьпекі, калі не жадаюць абяскроўленьня кантыненту. Эўропа павінна вылечыцца. Павинны быць зліквідаваны падставы для нацыянальнага гвалту і надужыцьця. Павинна быць зроблена „дэзынфекцыя“ ад заразы—заваевацельныхъ, каланізатарскіх тэндэнцыяў — мегаламаніі польскай шляхты.**

**Эўропа павінна зьдзейсьніць і зацвердзіць права на свабоду і самастойнае вырашэньне будучыні, акупаваных Польшчай пагвалчаныхъ народаў.**

**Няможна, абяздоленыя народы даводзіць да патрэбы дабівацца сваіх правоў куляю і штыком.**

**Покуль пераконывае людзкасьць, пушкі павінны маўчаць.**

Літва ва ўсёй гэтай палітычнай сітуацыі, ў гэтай выковываемай фактамі палітычнага жыцьця цэпі, — апошняе (а таму і рашаючае) звено.—Палітычныя крокі новага Сойму

будуць мець сваю адзнаку на парадку і характары развязаньня стварыўшагася небясьпечнага становішча міжнарадовымі сіламі.

Што скажа новый Сойм? На якую чашку вагі ён схіліцца? Ці—1) **ўдарыць у набат і будзе ў** імя міру дамагацца канферэнцыі эўрапейскага кантыненту наданьня нармальных правоў падняволеным Польшчаю народам; ці—2) падпарадкуецца падбухторывацелям, натхніцелям Пілсуцкага, і паставіць Літву, а разам з тым і ўвесь кантынент на перэдаднію „спектакляў Марса". Для нас беларусаў гэтае пытаньне вырашана: **мы жадаем варункаў замацоўваючых сталы мір.**

Мы з захопленьнем чакаем, што ў гэтай справе скажа новы Сойм. Мы пераконаны, што будзе сказана тое, чаго вымагаюць інтэрасы Літвы,—што маючы ўсталіцца напрамак літоўскай палітыкі будзе скіраваны на ўздойм нацыянальна-дзяржаўных і гаспадарчых здабыткаў Літвы.

Гэтае пераконаньне дае нам магчымасьць з належным супакоем перайсьці да разгляду па істоце адказнай праблемы сучаснасьці.

Нашым заданьнем зьяўляецца высьвятленьне перспэктыў (і разам з гэтым высілкаў Літвы для асягненьня і зьдзейсьненьня іх), якія трываюць, якія нясе за собою арыянтацыя на той або іншы, робячы ўсесьветную палітыку, комплекс дзяржаў, актыўным чыньнікам і ўдзельнікам якога павінна стаць Літва.

## Аб арыянтацыях.

Дзякуючы склаўшымся варункам сучаснага міжнарадовага жыцьця, найбольш вызначыліся два палітычных кампплексы, жадаючы ў сваю сферу агарнуць кругазор Коўны — гэта Ангельска-Польскі і Нямецка-Савецкі.

Трэба заўважыць, што аб'ектыўнаму выбару таго або іншага кірунку перашкаджаюць трываючыя да гэтага часу сярод літоўскага нацыянальна выхаванага грамадзянства тэндэнцыі-нашчаткі мінулага, а часам і відавочнага непаразуменьня, якія патрабуюць папярэдняга высьвятленьня.

Ўсім памятны зьдзекі над літоўскай нацыянальнай справай кануўшага ў вечнасьць, зьнікшага расейскага царызму. Агіда да чыннасьці як да самадзержаўя так і зьвязанай з ім чорнай сотні да гэтага часу адбіваецца на ўсім тым, што мае супольнае ці па істоце, ці навет па якой колечы асацыяцыі з Расеяй. Але шырокія колы літоўскага грамадзянства не дацэніваюць таго станоўчага факту, што на абшарах былай Расеі, над усім тым, што мела супольнае з царызмам, пастаўлена магільная пліта. Асабліва моцна і канкрэтна яна замацавана на абшарах Радавых Рэспублік. Цяпер Літву ад расейскай масы адмяжоўвае, на некалькі сот кілёметраў, нацыянальна ўзмацоўваючыйся з кожным днём, беларускі абшар, нешта зусім іншае ад маскоўскага царызму і яго імкненьняў і імпэтаў. Ня трэба рабіцца рабом кашмарных успамінаў мінулага, а яшчэ горш, калі гэтымі ўспамінамі (страціўшымі свой жыцьцёвы гістарычны сэнс) імкнуцца, як за шырмай, скрыць (адны сьвядома, другія не наўмысьня) ад вачэй нешта і ў сучаснасьці небясьпечанае для літоўскай нацыяналнай справы.

Калі запраўды была прыкрая (як некатарыя тут кажуць) расейшчына, то трэба мець на ўвазе, што была і... застаецца шкодная пальшчызна. Часы літоўскага гістарычнага рамантызму, часы супольнага, з лепшымі сынамі польскага народу, змаганьня супроць царызму канулі разам з апошнім у нябыцьцё.

Рэальнае жыцьцё сучаснасьці выглядае зусім інакш.

**Ачнуўшыся ад векавой драматы польскі нацыянальны шавінізм і дзяржаўны імперыялізм, усьпеў ужо зрабіць сваю адзнаку, разгалосак аб якой вядомы усяму сьвету. Гэты ненасытны прадвечны ўпыр паедае польскі працоўны народ і марнуе жыцьцё суседзяў шляхецкай неугамонай Польшчы. Пілсуцкі —жывы адбітак векавечных мрыяў польскай мегаламаніі. Вось былы романтызм у сучнасці.**

# Палітычныя перспэктывы арыянтацыі.

Пяройдзем цяпер да канкрэцізацыі справы ў нацыянальна-палітычным зьместу.—Як нам выяўляюцца выгады для Літвы ад Польска-Ангельскае арыянтацыі.

Што дастае Літва:

1) Згоду і сьціслы кантакт з Польшчай, а разам з тым якое-колэчы вырашэньне Віленскай справы.

2) Палітычную падтрымку Англіі.

Чым будзе павінна расквітывацца Літва.

а) Прыняць беспасрэдні ўдзел у рэстаўрацыйных імкненьнях сваіх прынцыпалаў ангельцаў, а разам з тым дапамагаць зьдзейсненью мегаламанскіх замыслаў Польшчы.

б) Даць гасьціннасьць і прывілеі для польскай справы на рапразентуемых Літоускім Урадам обшарах.

в) Зьвясьці на нішто—адмовіцца ад добрых стасункаў з Нямечыной і Саветамі.

Палітычная згода з Польшчай для Літвы — „палка з двума канцамі“, і невядома, які больш важкі — ці той. якім Літва будзе біць, ці той, якім будуць біць справу літоускага нацыанальна-дзяржаўнага адраджэньня.
**Літоўска-Польскае паразуменьне ў справе Віленчыны будзе кампраміснага зьместу.** Трэба думаць, что яно магло-б быць асягнута на падставе запрапанаваньня утварыць з Віленчыны буферны штат пад польска-ангельскай гегеможіяй.

Карысць для Літвы ад развязаньня Віленскай справы была-б зьменьшана неабходнасьцьцю не ўнікнёнага, ў гэтым выпадку, кантакту Літвы з Польшчай. Беларусы, згодна такому праэкту, зрабіліся-б дадаткам адной з старон.

**Такое вырашэньне Віленскй справы ня можна лічыць трывалым. І што, найбольш цікава, яно, ў працэсе ажыцяўленьня, прывяло-б** (дзякуючы канкурэнцыі абодвых народаў) **не к палагоджаньню, а завастрэньню літоўска-польскіх нацыянальных суперэчнасьцяў, узмацнёных (адчуваючыміся на кожным кроку) суперэчнасьцямі клясавымі.**

Палякі-ж здолелі-б скарыстаць свае правы на гасьціннасьць у сучаснай Літве. Літоўская гісторыя ўжо ведае да чаго гэта можа давясьці.

Ангельская палітычная падтрымка патрэбна Літве, галоўным чынам, пры разьвязаньні Віленскае справы. **Пасьля-ж утвареньня літоўска-польскай угоды ангельская аплітычная падтрымка траціць свой канкрэтны зьмест для сучаснай Літвы.**

**„Рэстаўрацыйныя"-ж імкненыня Англіі трымаюць у сабе цэлы шэраг небясьпек для Літвы.** Па-перш за ўсё трэба мець на ўвазе, што да актыўнай чыннасьці па асягненьню іх будзе прыцягнута ўся **чорная раць.** Потым ня можна прадугледзяць, чым гэта ўсё скончыцца і **хто, ў рэшце—рэшт, будзе дзіктаваць пастановы** маючагася быць „Новага Версалю". Можна паперад сказаць толькі тое, што першая скрыпка ня будзе ў руках Літвы. Тут нарыхтовываецца **„гульня ў цёмную";** пры чым на карту Літва павінна будзе паставіць кроў і дабрабыт сваіх сыноў і свой дзяржаўны суверэнітэт, а навет не ўнікнёна магчымасьць (у выпадку рашучай перамогі чорнасоценскіх настрояў) **падвясьці пад удар і справу літоўскага нацыянальнага адраджэньня. Каго пасадзяць на Літву—няведама.— Аматары ўжо ёсьць.** Што і казаць—заманіваюць і падбухторываюць на даволі „паважную" гульню!

А можа хто пацікавіцца, якая-ж максімальная выгада чакае Літву, калі гэтая магчымая завіруха кончыцца ў памысным для Літвы зьместу? **Чым будзе кампенсавана Літва за рыск і кроў сваіх сыноў? Літва застанецца такою, якая яна ёсьць, пры чым пад бокам будзе мець буферную Вільню.** Вось і ўсё.

Палітыка рэч такая, што трапляюцца здольныя людзі, якія адважваюцца сур'ёзным тонам прапанаваць і навет аргументаваць і такія прапазыцыі.

**Што-ж з палітычнага боку можа вымагаць Нямецка-Савецкая арыянтацыя?** — Добра ўмысловага нейтралітэту і не дачыненьня да авантур, скіраваных супроць памянёных дзяржаў.

Што-ж яны маглі-б запрапанаваць Літве? — Абарону літоўскай дзяржаўнасьці ад агрэсіўных плянаў Польшчы і належную своечасную дапамогу ў памысным для Літвы завершэньні Віленскай справы.

## Эканамічныя перспэктывы арыянтацыі.

Цяпер пяройдзем да разгляду **эканамічных вынікаў ад кожнай з вышэй памянёных арыянтацыяў.** У наш век кажуць: „Эканоміка — маці палітыкі“, і гэтаму боку справы мы павінны аддаць сваю галоўную ўвагу.

Што пазытыўнага, карыснага для Літвы, **дае польска-ангельская арыянтацыя?**

Пачнем з Польшчы. Мы павінны прызнацца, што відавочных паважных эканамічных выгад для Літвы ад сьціслага паразуменьня і кантакту з ею не бачым. Можна хіба разлічаць на выгаду ад сплаву і транзіту польскіх тавараў?

Англія можа даць грашовую пазыку. Можа быць рынкам для літоўскіх зернавых прадуктаў, сырых матэрыялаў і палуфабрыкатаў.

**Чым прыдзецца расквітывацца Літве?** Па-першае, даць льготы як для польскай, так і асабліва для ангельскай гатунковай прамысловасьці, бо польскія і тым балей ангельскія фабрыкі пры аднальковых варунках ня здольны вясьці канкурэнцыю з нямецкімі фабрыкамі.

Па-другое, даць тую або іншую **компенсацыю польскім абшарнікам** за абрэзаную для зямельнай рэформы зямлю.

**Якія-ж эканамічныя выгады і перспэктывы для Літвы дае нямецка-савецкая арыянтацыя?** Нямечына— рынак сельска-гаспадарчай прадукцыі. **Саветы могуць зьявіцца рынкам збыту літоўскіх гатунковых вырабаў.** Літва можа быць базай (не ўпараўнаньні больш польскага) савецка-нямецкага транзіту.

Што-ж вымагаецца з эканамічнага боку, як эквівалент ад Літвы? Мы не прадбачым якіх-колечы дадатковых вымаганьняў, выходзячых за межы звычайнага абаюднага кампрамісу пры гандлёвых стасунках.

# Эканамічная палітыка Літвы.

Каб ўявіць сабе рожніцу для літоўскіх эканамічных інтэрасаў перспектыў абедзьвёх арыянтацыяў, затрымаемся крыху на разглядзе эканамічнай палітыкі Літвы.

Цяпер ужо рэдка можна спаткаць людзей, якія ўздымаюць старыя спрэчкі аб тым, што Літва сельска-гаспадарчая краіна і што з прамысловасьцьцю нічога ня будзе, а трэба ўсю ўвагу зьвярнуць на паляпшэньне гаспадаркі. Гэтыя непаразуменьні па-малу ўжо адкідваюцца жыцьцём, бо шырокім колам грамадзянства стала вачавіста, што выключна агры-культурная палітыка ёсьць абмылка, ёсць сьвядомая падгатоўка сдаць краіну ў анабіоз — падгатоўка яе неўнікнёнага эканамічнага заміраньня, бо перспэктывы поступу іннтэнсіфікацыі гаспадаркі ў параўнаньні марней перспектыў інтэнсіфікацыі прамысловасьці.

Практыка месцовага жыцьця сьведчыць нам аб тым, што сярэдні гадавы прырост ураджайнасьці — сярэдняе гадавое павялічэньне гаспадарчых здабыткаў не пасьпевае здавальняць патрэб жыхарства — яе нармальнага сярэдняга гадавога прыросту. Інтэнсіфікацыя гаспадаркі — пераход да новых удабрыцельных тукаў, або да новых культур, насеньняў — часова спарадычна паляпшае поступ гаспадаркі; потым пачынае яшчэ мацней адчувацца стабілізацыя гаспадаркі, яшчэ больш звужаюцца перспэктывы для павялічэньня яе здабыткаў, яшчэ большае не здавальненьне патрэб павялічанага ў ліку грамадзянства, адзінай перспэктывай для якога застаецца эміграцыя.

Літва ужо цяпер мае каля $^1/_3$ міліёна эмігрантаў, г. зн. $20^0/_0$ сваяго нацыянальна літоўскага жыхарства.

Гэтая справа павінна быць узята дзержаўнай эканамічнай палітыкай Літвы пад увагу. Як утрымаць нармальнае лятуценьне эміграцыі да бацькаўшчыны? Якімі перспэктывамі падтрымліваць з ёй сувязь? Ясна, інтэнсіфікацыя гаспадаркі гэтых перспэктыў для звароту эміграцыі на бацькаўшчыну даць не здольна.

Наадварот, эміграцыя павялічыцца. Прыпомнім апошнюю эміграцыйную хвалю ва Францыю і Бразылію. Калі-ж мы не здоляем даць сваёй эміграцыі перспэктыў, зьвязва-

ючых яе з бацькаўшчынай, то варункі жыцьця зробяць тое, што мы хутка страцім яе для дзяржавы, а ў працягу двух—трох пакаленьняў страцім яе і для нацыі. З гэтай справай трэба штось-ці рабіць. Адзінае, што можа выратаваць з сучаснага становішча—гэта пляновы, распрацаваны ў дзяржаўным масштабе, ўздойм нашай прамысловасьці. Мне могуць закінуць—усё гэта добра, але якую-ж прамысловасьць можна нарыхтаваць у Літве? На гэта я адкажу: паперш, нам ня вядома, што трымаюць на обшарах Літвы яе нетры, бо геолёгічных досьледаў, геолёгічнай мапы Літва да гэтага часу не мае.

Распрацоўка і правядзеньне ў жыцьцё дзяржаўнага пляну па ўздойму прамысловасьці ў Літве вымагае некалькі гадовай падгатоўчай працы. Але лічым патрэбным сказаць хоць некалькі слоў аб тым, што вядома і што магчыма.

Крыніцаю энергіі мы маем „белы вугаль" і торф. Навет не валключана магчымасьць мець на Літве жыдкае топліва (досьледы ва ўнiверсітэце над уцелізацыяй сланцоў).

Словам з энергіяй справа стаіць даволі падхадзяча. З мінеральнай тэхналогіі можна мець заводы цэментныя, шкляныя, .терракотавыя і др. (цяпер мы навет цэглу атрымліваем тысячамі вагонаў з закардону). Есьць калчадан для здабыцьця серы; так сама ёсьць невялікія залежы жалезна-балотнай руды.

Але куды лепшыя і вельмі паважныя перспеэктывы можа даць арганічная тэхналогія. Арганічны сінтэз для здабыцьця фарбавых і лекарствавых прадуктаў, сырыя матэрыялы для чаго (прадукты сухое перагонкі дрэва і вінны спірітус) мы можам мець у значным ліку. Потым тэкстыльная (льняная, шэрсьцяная, канатная) прамысловасьць; бумажная і целюлёзная; скурная і серніковая прамысловасьць; фабрыкі і заводы спажыўчай тэхналогіі, у тым ліку, цукровай. Трэба сказаць, што у гэтай справе зроблены пачаткі. Брала ў ёй дачыненьне і **амерыканская эміграцыя** (фабрыка Drobė, Gamybė; спробы заводам б. Рэкуша...) Трэба пляновая дапамога дзяржавы для ўздойму прамысловасьці як у сэнсе правідловай пастаноўкі выpабу (дзяржаўная экспертыза, кантроль), так і ў арганізацыі збыту. Тагды мы адчуем усю вагу, патрэбу і карысьць развіцьця прамысловасьці.

**Прамысловасьць і гаспадарка гэта дзьве адна другую дапаўняючыя галіны „душа і цела“ прадукцыі, для добрага эканамічнага становішча краіны патрэбна іх гарманічнае развіцьцё.**

## Эканамічная палітыка і арыянтацыі.

Разгледзім цяпер як будуць спрыяць гэтаму гарманічнаму развіцьцю экономікі Літвы абедзьве арыянтацыі.

Ясна навет без асаблівага абмяркаваньня, што гаварыць аб гарманічным развіцьці літоўскай экономікі пры выбары польска-ангельскай арыянтацыі не прыходзіцца, бо Літва для гэтых краін, а не наадварот зробіцца рынкам збыту прамысловых вырабаў. Навет тыя перспэктывы, якія мае літоўская прамысловасьць дзеля распаўсюджаньня на ўнутраным рынку будуць звужаны. Трэба думаць, варунак дапушчэньня польска-ангельскіх тавараў на літоўскі ўнутраны рынак, бязумоўна, будзе пастаўлены як кампенсацыя з боку Літвы за увагу да яе вялікіх чыньнікаў сучаснага сьвету. Над разьвіцьцём літоўскай прамысловасьці трэба будзе ў гэтым выпадку паставіць крыж.

Адчыненьне магчымасьці для Літвы збываць свае зерновыя злішкі і сырыя матэрыялы ў Англію—не такая ўжо дабрачыннасьць з боку Англіі, а хутчэй наадварот; **бо звычайна вядзецца канкурэнцыя за рынкі сырых матэрыялаў і хлебных прадуктаў.** Першыя патрэбны для фабрык, другія—як першапатрэбны спажывецкі прадукт, а так сама як сродкі для ўзгадаваньня жывёлы. Кармілі-ж раней ангельцы сваіх сьвіней украінскім цукрам, а цяпер будуць гадаваць іх літоўскім аўсом. Жадаючыя атрымаць такія прадукты заўсёды знойдуцца да яшче і „дзякуй“ скажуць атрымаўшы.

Адзіная рэальная магчымасць для Літвы ад ангельска-польскай арыянтацыі — **гэта магчымасьць атрымаць грашовую пазыку. Нажаль, невядома толькі,** ці хопіць, яе на аплату (за адрэзаные для зямельнай рэформы) зямель польскіх абшарнікаў, да на прыплату за ангельскія тавары, каб даць ім магчымасьць канкураваць з нямецкімі на літоўскім рынку. Трэба мець на ўвазе, што ангельска-полская арыянтацыя скіравана на „ушчамленьне“ праціўнай стараны, ў чым Літве будзе запрапанавана ўзяць беспасрэдні ўдзел, і

**кольні панадабіцца ангельскіх пазык, каба кпіталізаваць тыя выдаткі, якія чакаюць Літву за набраньне ўдзелу ў рэстаўрацыйных імкненьнях ангельцаў, ды за чэсць апынуцца пад кіраўніцтвам** „dovódcy" **для спробы зьдзейсніць яго мегаламанскія мрыі.** Па афіцыяльнаму падрахунку страты Літвы толькі ад сапсаванага і зруйнаванага апошняю 1914-1918 г. г. вайною дасягаюць 4000.000.000 літаў

**Нямецка-Савецкая арыянтацыя** разгортывае перад Літвою магчымасьць мець рынкі як для збыту сельска-гаспадарчай прамысловасьці (цяпер выва3 у нямечыну дасягае 50,73% агульнага вывазу Літвы), так і **рынак для літоўскай прамысловасьці.**

Мяне могуць запытаць: адкуль-жа набраць грошай для разьвіцьця гэтай прамысловасьці? Па маючымся даным гадавая прысылка літоўскай эміграцыяй грошай у Літву дасягае 4.000.000 долараў. Распрацуйце плян уздойму літоўскай прамысловасьці; забясьпечцэ ёй рынкі збыту. Паінфармуйце, як належыць, і дабейцеся вытворчага каапэрыраваньня сярод амерыканскай эміграцыі, і яна павялічыць у некалькі разоў прысылку грошай. Гэта ёсьць пэўная не забавязываючая Літву перад чужынцамі крыніца. Дзякуючы ёй не страціцца, а ўзмацуецца сувязь літоўскае эміграцыі з бацькаўшчынаю.

Па нашаму пераконаньню адзіна-магчымай арыянтацыяй для Літвы зьяўмяецца нямецка-савецкая. Польска-ангельская арыянтацыя трымае ў сабе велікія небясьпекі як для нацыянальна-дзяржаўных, так і для гаспадарча-эканамічных інтэрасаў Літвы.

## Беларусы и Літоўцы.

Для беларусоў тая або іншая арыянтацыя мусіць адбіцца, па-перш, так як агулам на ўсіх грамадзянах і жыхарах Літвы; па другое, беларусы, ў зьвязку з Віленскай справай, маюць свае спецыяльныя інтэрасы, на якіх, у значнай меры, фактычна грунтуецца істота літоўска-беларускіх адносін.

Трэба зазначыць, што беларуска-літоўскія адносіны да гэтага часу застаюцца не акрэсьлянымі; яны маюць спарадычны хвілёвы характер: то ўздымаюцца

ў вышыню — беларусы атрымліваюць свае міністэрства, свае войска, з імі робіцца дзяржаўнага зьместу ўмова; то літоўска-беларускія стасункі зьніжаюцца да мінімуму — праводзіцца ліквідацыя беларускіх установ і зачыняецца апошняя беларуская школа, а ў стасунку жыхароў-селян праводзіцца якісьці не прызваіты анахранізм-іх, зпрадвеку жывучых побач з літоўцамі, штучна падводзяць пад рубрыку русіфікатараў-каланістаў, ў якіх, згодна закону, адымаецца зямля. Гэткая надзвычайна вялікая амплітуда ўзаемных адносін прымушае беларусоў імкнуцца да больш акрэсьлянае гармоніі для замацаваньня здавальняючых абодва народы адносін.

Апошнія падзеі ў сучнаснасьці -- (выбух Пілсуцкага) прымушаюць падыйсьці да абмеркаваньня літоўска-беларускіх адносін па істоце. За падставу для распрацоўкі ўзаемаадносін трэба мець пад увагай такія тэзісы:

1) Тэрытарыяльнае, у выпадку патрэбы, размежаваньне літоўцаў ад беларусоў вельмі труднае; яно ўпрост немагчыма, дзякуючы чаму трэба быць наперад падгатаванымі да таго, што ў межах Літвы будзе значны лік беларусоў і наадварот.

2) Паміж беларусамі і літоўцамі няма відавочных не даюшчыхся ўлагоджаньню клясавых суперэчнасьцяў.

3) Як беларусы, так і літоўцы і палітычна, і эканамічна зацікаўлены адны ў другіх.

На падставе вышэйазначанага:

4) Характар паміжсобных (асьвячоных векавымі традыцыямі) адносін павінен быць шчыры і прыязны, разлічаны на сталае доўга-тэрміновае супрацоўніцтва.

Мы не жадаем бярэдзіць старыя раны — ня будзем паўтараць тое, што не раз было гаворана беларускім грамадзянствам; мы не будзем крытыкаваць афіцыяльную палітыку Літвы ў стасунку да беларусоў, бо яе памылковасьць вачавіста, ўсімі прызнаны, засьведчаны жыцьцём факт.

Б а з і с а м літоўска-беларускага супрацоўніцтва павінна быць добра абмяркаваная ўмова як грамадзкага, так і дзяржаўнага зьместу. Б е л а р у с к а й  с т а р а н о й,  а д з і н а  п р а в а м о ц н а й  н а  п р а д с т а ў н і ц т в а  д з я р ж а ў н ы х  і н т э р а с а ў  б е л а р у с к а г а  н а р о д у  і  н а  ў х в а л е н ь н е  н а л е ж н ы х  у м о ў,  з ь я ў л я е ц а  с у ч а с н ы  М е н с к.

М э т а й супрацоўніцтва павінна быць усталеньне, вымагаючых істотай справы, добрых, здавальняючых жыцьцёвыя патрэбы абодвых народаў, паміжсобных адносін, і памыснае сваечаснае, адпаведаючае жаданьню як літоўцаў, так і беларусаў развязаньне справы акупаванай Віленшчыны і рэшты Зах. Беларусі.

# Беларусы і Пілсуцкі.

Цяпер высьвятлім найбольш адказны момэнт у справе нашых (як беларускай стараны) поглядаў на выбух Пілсуцкага і на нібы прапанаваную беларусам аўтаномію ў межах Польшчы.

Ня першы раз Пілсуцкі, ў свой час адданы (разам з Галерам) Падарэўскім у наймы Антанце для руйнацыі ладу і павялічэньня завірухі на ўсходзе Эўропы, зьвяртаўся да беларусаў з пекнымі словамі і заманчывымі абяцанкамі.

Мы памятуем, як ён казаў: „Я прышоў змагацца за вашу і нашу вольнасьць“... „Я прышоў, каб скінуць панаваньне невыбраных, пакінутых народам урадаў.“ Што-ж сталася ў жыцьці?

Беларускае жыхарства было аддана на мардаваньне польскай шляхце. Сотні тысяч нашых бежанцаў, зьвяртаючыхся на Бацькаўшчыну ў васеннюю хлябу, ў зімовую сьцюжу і вясеньнюю растарапь, ён затрымаў перад сваім калючым дротам. Дзесяткі тысяч беларусаў сваё імкненьне убачыць, што сталася з роднай вёскай, жаданьне апынуцца на родных месцах, змушаны былі занесьці ў магілу. Яго канцэнтрацыйныя лагіры і баракі — гэтая запраўдняя пакойніцкая беларускага селянства. Там беларусоў (бо польскае жыхарства і частка каталіцкага Зах. Беларусі мелі прывілеі: аслабаняліся ад абавязковай „дэфынфэкцыі“ і ізаляцыі) надзялялі тыфам і іншымі эпідэмічнымі хваробамі, пакідаючы іх бяз уселякай санітарнай дапамогі.

Вы не разбіраліся ў сродках для павялічєньня польскага каланізацыйнага фонду. Знуранае хваробамі і голадам беларускае жыхарства прымушана было гадамі тулліцца і бадзяцца па зямлянкам і акопам, застаўшымся ад вайны і... дапамагаць польскім асаднікам вазіць лес на пабудову. Вашы клеўрэты, чым толькі маглі, руйнавалі беларускую справу і нішчылі дабрабыт беларускага жыхарства.

Вы аддалі пад катаваньне беларускае жыхарства і яго палітычнымі змаганьнікамі запоўнілі да адказу польскія турмы.

Цяпер Вы прапануеце беларусам аўтаномію са сталіцаю Вільня?.

Што гэты сон значыць?!.

Ці не жадаеце вы дабіцца і скарыстаць непаразуменьне беларусаў з літоўцамі? Ці можа давіць вас кашмар ад пачуцьця таго зла, якое, дзякуючы вам, зроблена беларусам, літоўцам і украінцам?

Няўжо-не вы, пане Пілсуцкі, пераканаліся ў нашай маральнай перамозе і прапануеце нам сродкі для зьдзейсьненья правідловага размежаваньня з Польшчай без патрэбнага пряліцьця крыві беларускіх і польскіх працоўных?

Не дзеля гэтага Пілсуцкі прапануе аўтаномію Зах. Беларусі. Усім вядомы імкненьня-пляны Пілсуцкага. На яго лапчывасьці, на вялікамацарскіх мрыях, як па нотах, сыгралі дасьціпныя ангельскія палітыкі.

Пілсуцкі ўзяўся лячыць хваробу Польшчы. Нажаль, ён сам адзяржым гэтаю хварабаю, ды яшче ў больш цяжкай, чымсь хто колечы другі, форме.

Пілсуцкі жадае з беларусоў і ўкраінцаў зрабіць авангард для асягненьня яго мегаламанскіх імперыялістычных тэндэнцыяў. Пілсуцкі шукае каінаў: у Вільні—каб здабыць Менск і залучыць Коуна; ва Львове—каб здабыць Харкаў.

Годзе, пане Пілсуцкі! Гета ня „леташнія дразды“! Не! Беларусы Вам не супрацоўнікі-ўглады ятары не наймаюцца. Беларусы, дзякуючы Рэвалюцыі, здабылі сабе Бацькаўшчыну; беларусы прынялі Бацькаўшчыну, а разам з тым і, дапамогшую яе асягнуць,—Рэвалюцыю. Складушыйся свой лад грамадзка—дзяржаўнага жыцьця беларусы нікому не навязываюць, а роўным чынам не адчуваюць патрэбы і не жадаюць па чыёй-колечы ўказцы на іншы манер перарабляць замацаваны лад жыцьця.

Не, Пане Пілсуцкі, руйнаваць сваю Бацькаўшчыну беларусы ня пойдуць і не жадаюць сваею кроўю паліваць родную зямельку для польскіх каланістаў!

# Беларусы Літвы.

Для беларусоў сучасной Літвы надышоў вельмі адпаведны момант.—Мы павінны самкнуцца ў цесныя рады з літоўскім грамадзянствам і агульнымі высілкамі дапамагчы асягненьню нацыянальных заданьняў—здабыцьцю правоў літоўскаму і беларускаму народам.

Патрэбы сучаспасьці вымагаюць навязаньня праз Вільню і для Вільні належных беспасрэдніх стасункаў паміж Коўнаю і Менскам.—Ні літоуцам, ні беларусам не пажадана ўзваліваць непамерны цяжар на плечы свайго народу самастойна—высілкамі толькі аднаго народу—дамагацца развязаньня Віленскай справы.

Асягненьне літоўска-беларускага паразуменьня і супрацоўніцтва—наш маральны абавязак перад акупаванай Віленшчынай і рэштай Зах. Беларусі.

Нашы чарговыя лозунгі:

„Сучасная імерыялістычная, лапчывая Польшча трымае прычыну і выклікае небясьпеку агульна эўрапейскага пажару—гібель Эўропы“.

„Патрэбна як найхутчэй склікаць канферэнцыю эўрапейскага кантыненту для задавальненьня і абароны правоў, пакрыўджаных Польшчаю народаў, на самавызначэньне“.

Ці карацей:

**1) „Лапчывасьць Польшчы – гібель Эўропы“.**

**2) „Ратуйце Польшчу ад абжорства“.**

**3) „Польшча аддай зграбаванае“.**

*А. Пуцята.*

# Справа Вільні.

У № 24 (6) ад 20/V „Голас Беларуса“ зьмешчае стацьцю (пад вышэйпададзеным агалоўкам) з № 82 ад II/V „Савецкай Беларусі“.

Нажаль, рэдакцыя Гол. Белар. зьмясьціла гэтую стацьцю з даволі неўдалымі (выбачайце за выраз) **скарачэньнямі, адбіўшыміся на зьмесьце стацьці, затушаваўшымі лагодную палітыку Менска ў стасунку Віленшчыны.**

Перадрук Г. Бел. выклікаў абурэньне ў літоўскай прэсе (Lietuvos Žinios № 118 ад 26/V-26).

У мэтах правідловай інфармацыі падаём стацьцю № 82 „Сав. Бел.“ тэкстуальна, з падкрэсленьнем скарачэньняў „Г. Бел.“:

„На беларуска-літоўскіх абшарах, на тэрыторыі, якая ўрадам царскае Расеі падводзілася пад назву „Паўночна Заходняга краю“, самым вялікім местам зьяўляецца Вільня. У Вільні пачаўся і акрэпнуў беларускі нацыянальна—культурны рух, які шырокаю хваляю разьліўся потым па ўсёй Беларусі, будзячы да новага жыцьця самыя глухія яе куткі.

Пасьля вялікае Кастрычнікавае рэвалюцыі гэты рух атрымаў сваё канчатковае афармленьне і зьявіўся адным з наймагутнейшых фактараў у будаваньні беларускімі рабоча-сялянскімі масамі новае сьветлае будучыны.

Пасьля апошняга бурлівага пэрыяду ў гісторыі Эўропы і нашага краю, **пасьля вялікае эўрапейскае вайны 1914-1918 г. г., пасьля сутычкі двох новых дзяржаўных фармаваньняў: шляхецкае Польшчы і фэдэрацыйнае рэспублікі рабочых і селян** — Вільня апынулася ў межах Польшчы. Адражоная Польшча пачала пісаць сваю гісторыю з таго самага месца, на якім гэтае пісаньне спынілася пры сконе старое польскае дзяржаўнасьці, пачала пісаць у тым жа духу, як і раней. Адраджоная Польшча аднавіла сваю гістарычную традыцыю гвалтоўнага захапленьня чужых земляў, далучэньня іх да сябе сілаю мяча і гвалтоўнага перарабленьня іх на свой капыл сілаю ксяндзоўскага крыжа і паліцэйскаго бізуна. Напор адраджонага польскага імпэрыялізму на ўсход быў спынены Рыскаю мірнаю ўмоваю 18 сакавіка 1921 г. на лініі, якая ў сучасны момант зьяўляецца дзяржаўнаю граніцаю Польшчы і БССР, а разам з тым і мя-

жою паміж двума зусім рознымі дзяржаўна-палітычнымі і сацыяльнымі сьветамі. Гэтым Рыскім актам Вільня была адцята ад Усходняе Беларусі. Разарваныя часткі зажылі кожная сваім асобным жыцьцём.

Праз два годы акт 15-га сакавіка 1923 году (пастанова нарады пасланьнікаў аб канчатковай граніцы паміж Польшчаю і Літвою) адрэзаў ад Вільні выхад да мора і ўкінуў яе ў сьляпы мяшок „калідору“ без вакон і дзьвярэй, як вязьня ў карцар. Пачалося для Вільні ня жыцьцё, а ныцьцё. Далейшая Польшча адабрала ад Вільні яе дзяржаўна-палітычнае значэньне як сталіцы краю. Новая Польшча аграбіла Вільню да рэшты і эканамічна і культурна, адабраўшы ад яе тое-што заставалася нават пры царскім урадзе; значэньне культурна-гаспадарчага цэнтру.

Замест усяго гэтага Польшча зрабіла Вільню „сталіцаю чарвавагата адростку ў хранічным запаленьні“. Гэта параўнаньне, якое прызнаецца нават польскімі буржуазнымі газэтамі, трафна характарызуе тое хваравітае жыцьцё, якім прымушана цяпер жыць Вільня, а з ёю і ўвесь край.

Але пець адходную Вільні яшчэ рана. Гісторыя не сказала яшчэ аб Вільні свайго апошняго слова.

Сучасным становішчам нездаволены ўсе. Нездаволены найперш за ўсё самі польскія імпэрыялісты, бачучы, што ўвапхнутая ў свой глухі калідор, бяз сонца і сьвежага паветра, Вільня сохне, мізарнее, хварэе гаспадарчым і культурным малакроўем. Нездаволена сучасная Літва, якая ў далучэньні да яе Вільні спадзяецца артымаць новыя жыцьцёвыя сілы і сокі. Нездаволены рабоча - сялянскія масы Заходняе Беларусі. Усе, зацікаўленыя ў далейшай долі Вільні, кожны на свой лад абмяркоўваюць пытаньне аб гэтай долі. У сучасны момант Вільня належыць да Польшчы, але ці так будзе заўсёды ?

Сучасная Літва, не зважаючы на правал сваіх віленскіх дамаганьняў на ўсіх міжнародных інстанцыях, усё яшчэ ня кідае сваіх прэтэнзіяў і сваіх надзей. Польскія імпэрыялісты, жадаючы схіліць сучасную Літву да ўступчывасьці і „добрасуседзкага“ жыцьця, дразьняць яе, што яна разьлічае не на свае сілы, а на дабрату і дапамогу Савецкага Саюзу і Нямеччыны, што разьлічаць на гэта няма сэнсу і лепш памірыцца. **Пры гэтым яны па свайму звычаю дазваляюць**

**сабе рабіць паклёп на дзяржаву працоўных, на Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік.** Вось напрыклад, віленская польская газэта „Кур'ер Віленскі“ (№ 74) так піша аб гэтым:

„Літва разьлічае не на свае сілы, а на Расею і Нямеччыну. Яна хоча ўпэўніць сябе, што пераможная Расея, якая ўжо цяпер выстаўляе кандыдатуру на Вільню свае выхаванкі — Савецкае Беларусі аддасьць гэтую правінцыю пасьля яе магчымага адваяваньня ад Польшчы—Літве“.

**На гэта літоўскім „пріяцелямъ“ з „Кур. Віл.“ можна даць такі адказ: СССР. ваяваць ні з Польшчаю, ні наогул з кім бы то ні было ня зьбіраецца, і калі яго ніхто не зачэпіць, дык і ня будзе. Выяўляць справу так, што Савецкі Саюз „выстаўляе кандыдатуру на Вільню свае выхаванкі Савецкае Беларусі“, імкнецца да імпэрыялістычнага захопу Вільні да адваяваньня яе ад Польшчы дзеля перадачы Савецкай Беларусі,-значыць ілгаць і правакатарстваваць.**

**Праўда што** апрача прэтэнзіяў на Вільню з боку **кулацкае Літвы,** ёсьць прэтэнзіі з другога боку, **але зусім ня з боку Савецкае Беларусі,** а з боку... заходня - беларускіх **рабочых** і сялян. Калі рабочым і сялянскім масам Заходняе Беларусі ўд.сца нізрынуць белапанскую ўладу і ўстанавіць сваю, дык наўрад ці хто-небудзь у Савецкім Саюзе захацеў бы дапамагчы адабраньню ад заходня-беларускіх рабочых і сялян Вільні дзеля перадачы яе... **ксяндзоўскай Літве.** Гэта праўда. **Але гэта нешта іншае, чым піша „Кур'ер Віленскі“.**

Вільна павінна належыць і будзе належаць заходня-беларускім рабочым і сялянам. **Толькі яны могуць вырашыць пытаньне аб долі Вільні“.**

Аб чым сьведчыць вышепададзеная стацьця? — **Менск не прэтэндуе на Віленшчыну, але і не выказвае ў яе справе сваю незацікаўленасьць, свой** dezenterasman.

Полемізуя з „Кур. Віленск.“ афіціоз Радавай Беларусі становўча зазначае, што ўселякія **намёкі аб імкненьні Савецкага Саюзу захапіць Віленшчыну для перадачы Радавай Беларусі зьяўляецца ілжою і правакацыяй.**

Наша рэдакцыя з свайго боку зьвяртае на два, па нашай думцы, цэнтральных мейсцы стацьці: Першае, гдзе гаворыцца аб тым, што сучасным становішчам, стварыўшымся наўкола Віленшчыны, ўсе не задаволены; другое — што запраўднымі суб'ектамі, якія перш за ўсіх маюць права вырашыць долю Віленшчыны, зьўляюцца рабочыя і селяне Зах. Беларасі.

Гэта зусім зразумела, бо селяне і рабочыя складаюць большасьць жыхарства краю.

На гэты бок справы, — на зацікаўленьне работніцкіх і селянскіх мас Віленшчыны,— на патрэбу даць ім здавальняючыя перспэктывы ад сувязі з Літвою, не раз і беларускія грамадзкія колы зьвярталі увагу каго належыць у Коўне. Тое, што добрага і тактычнага для развязаньня Віленскай справы было зроблена Літвою ў 1921—22 г. г., дзякуючы афіцыяльнай палітыце 1923—25 г.г., начало забывацца.

Трэба Коўне пажадаць і падрыхтавацца для аб'еднаньня з Віленшчынай.

У мэтах памыснага для Літвы вырашэньня Віленскай справы **трэба зрабіць належныя крокі, каб прыняць да канкрэцізаваньня акрэсьлянымі варункамі супрацоўніцтва ўсе, спрыяючыя разьвязаньню справы, рэальныя сілы і, ў першую чаргу, шырокія колы грамадзянства.**

**Трэба наб жыхарства Віленшчыны (ў тым ліку і беларусы) ведала, што ў Незалежнай Літве іх чакаець маці, а не мачаха.**

Для зьдзейсьненьня, грунтуючыхся на такіх імкненьнях, плянаў Коўны беларусы Літвы ахвотна даложаць сваіх высілкаў.

---

Вецер — разбэшчаны шэльма,
Не хістайся ў цьвярозай ты шыры!
Вунь у вёсках жытнёва — кужэльных
Навабранцамі песьні базыраць.
Ой-да ў вёсках лапцюжныя хлопцы
Зажынаюць паўстанчую постаць.
Закасаўшы рукавы па локці,
Ў іхніх сэрцах бунтаршчына госьціць.
Яны цемру ў жалобе разуюць, —
Іх юнацкія сэрцы ня струсяць.
Пранясіся-ж, ты, поўдзень, казуляй
Па шумлівай лісьцьве Беларусі!...
Ой пясок на дарозе прыбіты
Беларускаю буйнай сьлязою.
Ну дык, сонца, ня йдзі ў бандыты,
Не хавайся за кустам лазовым!
А разам с хлопцамі ў паходню
Між стагодніх ялін Белавежы, —
Прамяніся над часткай Заходняй, —
Нядолі мы крыльле абрэжам!
Дык, вецяр пянюга заўзяты,
Сьпявай ў віхрамётнай пагоні!
Ужо блізка вялікае сьвята, —
Яго заўтра мы ў хаты загонім.

*Язэп Пушча.*

*А. Палын.*

# Ня плач, матанька!

Ня верба стаіць
падламаная
на высокі дуб
забапёршыся,
не раса з яе
буйна крапае,
па грудзёх цячэ
дубу крэпкага, —
гэта матанька
абнімаецца
з сынам родненькім
развітаецца,
адпраўляючы
ў войска варажжа
служыць недругам,
пакарацiся,
за іх — ворагаў
заступацiся.
Гэта матанька
плача горанька,
сыну на грудзі
льючы сьлёзанькі,
на яго плячо
абапёршыся,
да яго твару
прытуліўшыся.
— Ты ідзеш, сынок,
чужынцом служыць,
ляхаў-ворагаў
бараніць ў бядзе
і за іх правы
заступацiся
і жыцьцём сваім
наражацiся.
Ў службі варажай
сілай, зьдзекамі
убіваць пачнуць
у галованьку,
што ты — хам, мужык
і нявучаны,
прападзеш бяз іх
з сваім разумам,
што па ласцы іх
ты навучышся,
як на сьвеце жыць,
кім лічыць сябе,
з панам роўнымі.
Твае сэрданька,
сэрца чыстае,
крыўдай людзкаю
не заплямлена,
атруцяць паны
непашанаю
да бацькоў тваіх,
да мяне старой,
сіваволасай,
што жыцьцё свае
аддала табе,
ў беднаце-бядзе
выгадоўваўшай
і чакаючай
сабе радасьці,
ў старасьць помачы
і заступніцтва.
А цяпер адну,
безбаронную,
пакідаеш ты
і хто ведае?
Можа ворагі
адбяруць ў мяне
сына роднага;
абяцанкамі,
чынам, грошамі
твае сэрданька

у палон вазьмуць?
Астанешся ты
назаўсёды там
паслугоўваць ім
і старацiся
дагаджаць паном,
нашым ворагам.
I сам панам ты,
глядзi зробiшся
к сваей матаньцы
ўжо ня вернешся,
ад братоў сваiх
ты адмовiшся,
ад зямлi бацькоў
ты адвыкнеш там.
У чужым краi
закахаешся,
там ажэнiшся
на палячцы ты
i ў свой родны край
ўжо ня вернешся,
ты чужым яго
ўжо лiчыць будзеш...
Або пойдзеш ты
на братоў сваiх
з сiлай варажай,
каб прымусiць нас
ўсiх запамятаць
хто мы ёсьць,
кiм павiнны быць?...
Або можа дзе
ты галаваньку
зложыш, недругам
дагаджаючы,
у вайне за iх
заступаючысь?...
Я-ж з малымi тут
паджыдаючы
цябе роднага
ўсё чакаючы,
ад тугi памру
з сэрцам высахшым,
у труну сайду
з жалям гаранькiм...
— Ня плач, матанька,
ня плач, родная!
Не пайшоў-бы я
ў службу варажжу
i уцёк бы я
у далёкi край,
каб душы свае
не прадаць паном,
зьдзеку, сораму
не цярпець ад iх, —
да шкада цябе,
маю родненьку,
пакiдаць адну,
безбаронную:
што ўцяку ад iх, —
яны спомсьцяцца,
на табе зжануць
злосьць зьвярыную,
павядуць ў турму
цябе, бiць пачнуць,
каб сказала ты,
дзе шукаць мяне.
Адбяруць ў цябе
хлеб астатнi твой,
зямлю, конiка
i карованьку.
I ты з дзеткамi
пойдзеш з голаду
жабраваць у сьвет,
прасiць мiласьцi...
Ось, пайду-ж я лепш
ў службу варажжу,
з дзьвёх бед лепшую
выбiраючы,
жыцьцё матчына
ашчаджаючы.

Ня служыць я йду,
не карыціся,
свайго імяні
адмаўляціся,
мовы матчынай
выракаціся,
ад свае зямлі
адкалоціся
і лічыць яе
зямлёй польскаю,
а ня нашаю
бел рускаю.
Ня служыць я йду,
а вучыціся
ваяваць умець
супраць іх самых, —
адплаціць паном
за навуку іх,
як пара прыдзе
рахаваціся,
жалям, крыўдамі
разлічаціся,
Я ў палон душы
не аддам свае
злотам, серабрам,
абяцанкамі
ня купіць паном
чэсьці, гонару
беларускага,
грамадзянскага!...
Ня плач, матанька,
сьлёзы высушы
ты надзеяю
на ўжо блізкі час
нашай вольнасьці
і на мой ўзварот
з весткай мілаю,
што ўжо наш народ
з панскай сілаю
можа мерыцца,
з зямлі роднае
выганяючы
і свае правы
здабываючы...
Будзь здарова ты,
ня тужы па мне!
Хмары чорныя
ты з свае душы
адганяй туды,
скуль прышлі яны...
Па навальніцы
сонца вольнасьці
засьмяецца нам
сьмехам ласкавым
і абсушыць вам
сьлёзы горкія,
мацярком, жанком
нашым родненькім...

# Выбарчая кампакія і яе вынікі.

Выбары ў Сойм— паверка настрояў грамадзянства; паверка ўплыву на масы прэтэндуючых на прадстаўніцтва народу, імкнучыхся да ўлады партыяў і груп. У гэтым сэнсе апошнія выбары далі шмат цікавага.

Па-перш, зьвяртае на сябе ўвагу інтэнсіўнасьць прадвыбарчай агітацыі. Па сьведчаньню ўласьнікаў друкарняў лік выпушчанай агітацыйнай літэратуры павялічыўся больш, чым у два разы, у параўнаньні з папярэднімі выбарамі. Друкарні працавалі амаль круглую пару. Агітацыйныя лістоўкі выпускаліся лікам да мільёну экземпляраў. Па-другое, значны лік жыхарства прымаў удзел у выбарах, дасягнуўшага ад 85% да 90,7% (Цельшынскі вокр.) выбаршчыкаў,

Па-трэйцяе, ў час галасаваньня сацыяльныя матывы мелі перевагу над нацыянальнымі.—

Выбары далі перамогу літоўскай апазыцыі другога Сойму.

Літоўская апазыцыя — блок ляўдзінінкаў, таўцінінкаў, укіо партыі і с.-дэмократы (апошнія адмовіліся ад блакіроўкі з іншымі партыямі)

атрымала 446.108 галасоў 42 мандаты

Блок х.-дэмакратаў, укін.-саюнгос і

| | | |
|---|---|---|
| дарбо-федарацыі | 311.782 галасоў | 30 манд. |
| Меншасьці | 114.653 „ | 8 „ |
| Нямецкі блёк у Клайпедзе | 39.440 галасоў | 5 „ |

Апазіцыя выйграла 16+2 мандатаў; блок хрышчоных дэмакратаў страціў 10 мандатаў. (у тым ліку штучна-скамбінаваная дарбо - федарацыя страціла 7 мандатаў); меншасьці страцілі 6 мандатаў (яурэі 4, немцы 1, расейцы 1).

Сярод меншасьцяў былі такія групіроўкі:

Яўрэі выставілі два (паміж сабою змагаючыхся) сьпіскі: сіяніскі і клерыкальна буржуазны сьпісак. Палякі выставілі два аб'еднаных сьпіскі: буржуазна-абшарніцкі і селянска-работніцкі; першы з іх атрымаў 17.774 галасоў і, згодна варункам блёку, 3 мандаты; другі атрымаў 24.473 галасоў і 1 мандат. *) Расейскае і беларускае жыхарства так сама мела два змагаючыхся паміж сабою сьпіскі: правы, блёкаваўшыйся з х.-д. і прагрэсіўны, ўвайшоўшы ў блёк ляудзінінкаў.

*) Па I, III і IV выбар. вакругам палякі мелі агульны сьпісак і атрымалі па гэтым вакругам 13.369 галасоў, не лічучы штучнага сьпіска № 23 па III вокр., атрымаўшага 257 галасоў.

Агульна-меншасцёвае блёкаваньне не прайшло. Аб прычынях гэтага кажуць рожнае. Па - перш, частцы яўрэйскіх і расейска-беларускіх прадстаўнікоў не падабалася „дыктатура“, пры выпрацоўцы варункаў блёка, праяўленая прадстаўнікамі польскіх сьпіскаў, дамагаўшыхся 5-6 прахадных мейсц з агульнага ліку (прыблізна 12-14) мандатаў, маючага выпасьці на долю блёка меншасьцяў. Быў адзін момант, калі прадстаўнікі яўрэйскай і расейска-беларускай меншасьці жадалі далучыць да сябе прадстаўнікоў нямецкай меншасьці і выступаць супольным блёкам, як на папэрэдніх выбарах. Але немцы ў апошні момант не згадзіліся. Кажуць, што імі нібы кіравала жаданьне мець у новым Сойме больш нямецкіх, чым яўрэйскіх дэпутатаў (ішла нібы спрэчка за мейсца старшыні блёка меншасьцяў, звычайна належачае групе, маючай больш прадстаўнікоў), і таму немцы падтрымлівалі палякоў супроць яўрэяў. Прапазыцыя палякоў расейска-беларускай групе была гэткая: трэцьце мейсца па Панявескаму і чацвёртае па Уцянскаму, гэта значыць: ніводнага ня толькі больш-менш пэўнага, а нават і магчымага мейсца.

Вынікі памянёных дамаганьняў на-ліцо: меншасьці (выключаючы палякоў, застаўшыхся пры сваём—4 дэп.) страцілі 6 мандатаў

Гісторыя паяуленьня двух расейскіх сьпіскаў мае сваю цікавасьць для грамадзянства.

Грам. Ерын—сябра блоку х.-д. (у мінулым Сойме) дамагаўся быць і ў Сойме новага складу. Дзеля гэтай мэты ён пастараўся выкарыстаць яму паслухмяны „Дэмакратычны Саюз Расейскіх грамадзян Літвы“. Аружжам для асягненьня сваіх мэтаў ён выбраў стараверскіх настаўнікаў і праваслаўных сьвяшчэнікаў. Неправідлова прысвоіў сабе ў заслугу тое, што фактычна зроблена было прадстаўніком нямецкай меншасьці Кіндарысам, а іменна: прыблізнае ўраўнаньне ў эканамічнай падтрымцы дзяржавай кліра (сьвяшчэнікаў, настаўнікаў, пастараў і рабінаў) меншасьцяў з каталіцкімі ксяндзамі. Гр. Ерын паведаміў сьвяшчэнікаў і настаўнікаў аб тым, што ні-бы ён выхлапатаў для іх дроў на апал. Разаслаў ад імя памянёнага Дэм. Саюзу Рас. грамадзян запросіны на зьезд для выбараў кандыдатаў у Сойм ад грамадзян расейскае нацыянальнае меншасьці Літвы (пры гэтым прылажыў сьпіс пажаданых кандыдатаў у Сойм), Ерын прыўрочыў к

моманту зьезду спэцыяльныя царкоўныя зьезды. Зьехаўшаеся духавенства ён парадаваў, што дабіўся для іх пэнсіі ад казны і дабьецца яшчэ большай палёгкі. І падгатаваўся „пажаць лаўры“.

Апазіцыя на зьездзе усётакі знайшлася і падвергла чынасьць г. Ерына ў Сойме правідловай, але зьніштажаючай крытыце: што ён пазорыў у Сойме расейскае імя, супрацоўнічая з рэакцыйна-клерыкальнымі элементамі; што ён сапсаваў зямельную справу расейскага грамадзянства, галасаваўшы за апошняе вырашэньне гэтай справы не судом, а чыноўнікамі; што ён галасаваў... за недапушчэньне грамадзян расейскай нацыянальнасьці ў школы па падгатоўцы тэхнікаў; што ён сваім палітычным праціўнікам пагражаў адабраньнем пашпартоў; што ён ашукаў і блёк меншасьцяў і расейскае жыхарства Літвы, і што ўсё гэта ён рабіў у сваекарысных мэтах.

**Але Ерын не палохаўся, ён меў пэўны „кадр прыхільнікау“, які зпачатку адкінуў прапазыцыю праверыць мандаты дэлегатаў праз выбраную зьездам камісію; потым** адмовіў зьезду папоўніць перад галасаваньнем сьпісак (разсаланы г. Ерыным раней) кандыдатаў, прыбыўшымі на зьезд, прадстаўнікамі з мейсц, які канешна даў бальшасьць галасоў г. Ерыну.

Апазіцыі, на чале якой стаў М. Рагевіч, нічога не заставалася як узарваць і высьвятліць гэту штучную камбінацыю перад грамадзянствам.

Адмовіўшыся прымаць дачыненьне ў галасаваньні, апазіцыя заявіла, што пойдзе на выбары асобным сьпіскам.

Але ў г. Ерына быў не толькі „пэўны кадр“, ў яго была і (ў выпадку патрэбы) „маральная падтрымка, прыязнага яму, дзяржаўнага апарату“.

Апазіцыя склала расейска-беларускую групу, на якую і яе кандыдатаў не замедлілі пасыпацца ня толькі інсінуацыі Ерына, а і „скарпіоны“: **Хто** (маючыя дзяржаўныя пасады) удастоіўся „належнай“ размовы вельмі высокіх асоб; **каго** пазбавілі наградных, належаўшых па службе; **каму** (перад самымі выбарамі) спынілі водпуск і патрэбавалі сьпешна адправіцца на службу... ў другі выбарны раён; кой-**кім** выказалі свае незадавальненьне і далі зразумець...; **аб ком...** прышлося паклапаціцца грамадзянству... і браць дазвол на пабачэньне.

Падпісаўшыхся пад кандыдатскімі расейска-беларускай групы сьпіскамі селян (па кожнаму выбарчаму вокругу патрэбна ня менш 50 подпісаў) проста страшчалі ўсімі „сьмяротнымі грэхамі“ і... яшчэ чым-колечы...

Ня гледзячы на ўсё гэта, расейска-беларуская група давела выбарную працу да канца і атрымала ў пяць разоў больш галасоў, чым Ерынскі сьпісак Демакрат. Саюзу Расейск. грамадзян Літвы.

Мала таго, грамадзянства зьняло сьпісак Ерына па двум (з шасьці) вакругам, з якіх адзін (найбольш важны—Уцянскі) быў „падараваны“ Ерыну Вярхоўнай Выбарчай Камісіяй — (з 54 подпісаў пад сьпіскам Ерына засталося 48) — было прызнана правідловым дадатак недастаюшчых подпісаў пасьля прасрочкі належнага тэрміну.

**Расейска-беларуская група атрымала відавочную маральную перамогу.** Яна цяпер мае права запрапанаваць сучаснаму прэзыдыуму Дэмакратычнага Саюза расейскіх грамадзян Літвы на чале з Ерынам (як страціўшаму давер'е і права на прадстаўніцтва ад імя расейскіх грамадзян) падгатавацца к перадачы спраў.

Сваёй рэальнай пабедай группа будзе лічыць момант, калі атрымае магчымасьць дапамагаць расейскім і беларускім грамадзянам Літвы.

На больш пажаданыя вынікі выбараў (мець сваіх дэпутатаў у Сойме) групе трудна было разлічаць. Трудна было ў неадпаведных варунках, у працягу аднаго-двух месяцаў падабраць супрацоўнікаў і азнаёміць, раскіданае па ўсёй Літве грамадзянства, з заданьнямі, праграмай і тактыкай групы. Група імкнецца ўтрымаць налажаную ў час выбарнай кампаніі сувязь з большасьцьцю новага Сойму і дабіцца нармальнага, памыснага, здавальняючага нашае жыхарства разьвязаньня зямельнай, школьнай і інш. спраў, выключна да нацыянальнай аўтаноміі (пастаўленай на абгавор сучаснага палітычнага дня).

Мы спадзяёмся, што нашы захады сустрэнуць у большасьці новага Сойму прыхільны прыём ня толькі таму, што мы разам ішлі на выбарах, а і таму, што значны лік галасоў расейска-беларускае жыхарства падало за, зьвяртаўшыхся да іх і абяцаўшых бараніць, народнікаў і с.-д.

Наступная табліца дае таму яскравае сьведчаньне.

| №№ вакругоў | Назовы выбарных вакругоў і паветаў | Лік маючых права галасаваць расейц. і белар. | Сярэдні % галасаваўшых | Лік прымаўшых у галасаваньні расейц. і белар. | Лік галасоў пад. за: расейска-беларускі сьпісак | расейскі (Ерынскі) | Усяго | Лік галасаваўш. рас.-белар. за народ. і соц. дем. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | Марыямпольскі, Сейнскі, Аліцкі і Сувальскі . . . . | 1.460 | 86,7 | 1.265 | не было | 204 | 204 | 1.061 |
| II | Ковенскі, Троцкі, Вылкавыскі і Шацкі | 7.027 | 87 | 6.113 | 1.515 | 593 | 2.108 | 4.005 |
| III | Кейданскі, Расіенскі і Таурагенскі . . | 2.353 | 87 | 2.047 | 684 | 216 | 864 | 1.183 |
| IV | Цельшынскі, Мажэйкаўскі і Крэцінскі . . . . . | 1.872 | 90,7 | 1.704 | 958 | зьнят | 958 | 746 |
| V | Панявеж. Шавельскі і Бір.-Пасвальскі *) . . . . . . | 5.545 | 85,6 | 4.746 | 2.200 | 261 | 1.461 | 2.285 |
| VI | Уцянскі Ракіскі, Эжэрэнскі і Вількамірскі . . . . | 11.260 | 88,1 | 9.920 | 2.701 | 338 | 3.051 | 6.891 |
| | Усяго . . . | 31.417 | | 25.795 | 8.022 | 1.619 | 9.641 | 16.154 |
| | У тым ліку падана галасоў па вялікш. местам... | 3.214 | 87 | 2 796 | 290 | 442 | 732 | 2.064 |
| | % галасоў па гарад. да агульнага ліку атрыман. сьпіскам *) | 10.2 | | | 5.0 | 27.3 | | 12.7 |

Такім чынам за большасьць сучаснага Сойму расейска-беларускае жыхарства падала 62,6% сваіх галасоў. Калі дадаць да гэтага 5.822 галасоў рас.-бел. групы, пайшоўшых на карысьць блёка ляўдзінінкаў, то атрымаецца 21,993 галасоў, што складае 85,2 % маючых права голасу рас.-бел. жыхарства.

Мы лічым, што расейска-беларускае жыхарства сучаснай Літвы мае ня толькі юрыдычнае, але і маральнае права чакаць увагі да сваіх патрэб з боку большасьці сучаснага Сойму.

Далей мы лічым патрэбным зьвярнуць увагу расейска-беларускага жыхарства на выявіўшыся, дзякуючы выбарам,

*) Па Панявежскаму вокругу расейска-беларускі сьпісак быў агульны з нямецкім і таму ў падрахунак % галасоў гораду да агульнага ліку атрыманых сьпіскам не браны.

факт рожнадумнасьці, не адпаведнасьці палітычных поглядаў і настрояў гораду і вёскі.

Зьвернямся да цыфраў.

Большасьць нашага местовага жыхарства—інтэлегенцыі галасавала за Ерынскі (характарызаваны жыхарствам як правы) сьпісак, атрымаўшы у гарадох 442 галасоў (у тым ліку Коўна дала Ерыну 345 галасоў), што складае 27,3 % агульнага ліку паданых за сьпісак галасоў і 6,3 % рус. бел. галасов.

За расейска-беларускі (атрымаўшы ярлык прогрэсіўнага) сьпісак горад даў 290 галасоў (у тым ліку Коўна дала 263 галасоў) 5 %; а ўсяго 31,1%. 62,6 расейска-беларускіх галасоў пайшло літоўскім партыйным-народніцкім і с-д. сьпіскам.

Справа не ў тым, што адбылася дiферэнцыяцыя расейска-беларускага жыхарства; так сама мы мала чаго маглі-б сказаць супроць галасаваньня за літоўскія агульна дзяржаўныя сьпіскі, гэта ў прынцыпе лічым нармальным, (калі не браць пад увагу, маючаеся да часу выбараў нездавальненьне нацыянальна-культурных патрэб нашага жыхарства).

Справа ідзе аб тым, што расейска-беларуская інтэлегенцыя ня здолела ўтрымацца на вышыне старых традыцыяў; ня здолела выпрацаваць і даць вёскі здаровую, здавальняючую яе, ідэалёгію; ня здолела сваечасна ўгледзіць і адпаведна абараніць жыцьцёвыя патрэбы вёскі.

Гэты факт робіцца яшчэ больш сумным таму, што наша местовае жыхарства ў сваёй пераважнай большасьці складаецца з „перабіваючайся з вады на квас“ працоўнай, не заможнай інтэлегенцыі; гэта значыць, сацыяльныя інтэрасы расейска-беларускіх горада і вёскі ідэнтычны, аднальковага гатунку.

Нашы горад і вёска надаўміліся, „сметь своё суждение иметь“. — Шырокія расейска-беларускія работніцка-селянскія колы прызналі свой горад—сваю інтэлегенцыю не пажаданым, не дастойным прадстаўніком.

Афяруючы сваім нацыянальным пачуцьцём, яны пачалі шукаць новых абаронцаў сваіх правоў.

**Выбары ўскрылі ідэёвы сацыяльна - палітычны разрыў паміж адпаведнымі чыньнікамі нашага мястовага і вясковага жыхарстса Літвы.**

Расейска-беларускай інтэлегенцыі ляпей чым каму-колечы вядома, да чаго даводзіць разрыў з масамі, але як відаць, „урок не пашоў у прок“.

„Тармажэньне“ поступу сацыяльна-палітычнага ўсьвядамленьня і дамаганьняў селянска-работніцкіх масаў — не ўдзячнае заданьне.

Наша („павергнутая ў анабіоз“) інтэлегенцыя, нарэшце, атрымала відавочны доказ таму, што яна „витает в облаках“ — жыве мінулым, што яе „глыбока надуманыя, натхнёныя помстай рэстаўрацыйныя“ мрыі, — беспадстаўны; што яна мае не ідэалёгію, а „архіўны матэрыял“, не адпаведаючы патрэбам і імкненьням народных гушчаў. Вынікам усяго сталася тое, што наша інтэлегенцыя зьявілася „лішняю“. — Работніцка-селянскія масы дамагаюцца, шукаюць іншых, хоцьбы і чужых, багоў.

Інтэлегенцыя не мае маральнага права перэкладываць свае нацыянальныя абавязкі на чужыя плечы.

Трэба адкінуць беспадстаўны саманадуманы месіянізм; неварта з пачуцьцём самазамілаваньня „дамагацца патэнту на ісьціну“. Праўда жыцьця — здавальненьне патрэб работніцкіх, селянскіх мас і вашых — павінна быць першай мэтай асягненьня і ўлагоджаньня.

Пара зрабіць перэацэнку, і перш за ўсё, сваіх цэннасьцяў.

Ваша хвароба — „idola tribus“ *) мінуўшчыны — вашага выхаваньня.

Бліжэй да пульсу жыцьця — да здавальненьня патрэб шырокіх колаў грамадзянства!

Першыя крокі ў гэтай справе—наданьня руху жыцьцю —зьуляюцца абавязкам, запраўды, дэмакратычнай (поруч з маючаю соцыялістычны нахіл) нашай інтэлегенцыяй. Рэшта грамадзянства павінна прыслухоўвацца і падтрымаць іх акцыю. Толькі такім шляхам можна палепшыць, выратаваць справу расейска-беларускага жыхарства Літвы; толькі так можна асягнуць лагоднага сужыцьця, сувязі і ўзаемнага разуменьня нашых горада і вёскі.

Гэта маральны абавязак інтэлегенцыі і ён павінен быць выканан.

*Лазінка.*

---

*) узгадаваныя традыцыямі масавыя абмылкі.

*Міхась Чарот.*

# З поэмы „Босыя на вогнішчы“.

...Застагналі вёскі і сёлы...
Брычка стаіць ля сьвятлічкі.
А город схаваўся ў касьцёлы:
Моліцца, чытае кантычкі...
— „Бэндзь люд спанялы“...
На шапку „ожал бялы,“ --
Блішчаць гузікі, —
Чыноўнік зноў на скверы
Лушчыць гарбузікі,
Думае якой ён веры?
— Ах, халеры!
Каб дастаць работу,
Пытаюць, хто ты?
А босым холадна,
Абутым голадна...
Жыць не ахвота.

* * *

Над балотамі дыміцца —
Згас агонь.
А па вогнішчы імчыцца
Белы конь.
Скача ўлева, скача ўправа,
Ня стрымаць.
Захацеў улан на славу
Пагуляць.
Растуліся, сьвет, дарога, —
Аднаму.
— „За айчызну і за бога“.
Што яму?!
Яго сіла — яго права,
Есьць бізун...
Скача ўлева, скача ўправа
Конь — скакун.
Гэй, ляці, але дзяржыся,
Злы яздок,
Без пары не праваліся

У масток.
На вадзе ляжыць мост новы,
На агні,
Не праедзеш ты дубровы,
Пагані!?
Усхадзіўся лес шумлівы,
Вые воўк
Конь спаткнуўся палахлівы,
Стой яздок.
На балоце і на поле
Зноў агні.
Ня гуляць табе тут болей —
Павярні!...

# Беларускае жыцьцё.

## Літва.

Беларуская справа.

У зьвязку з вынікамі выбараў расейска-беларускае грамадзянства пачынае рэарганізавацца.

30/V сёл. г. грамадзянства дабілася дымісіі старшыні Расейскага Дэмакрат. Саюзу Ерына, падаўшага заяву аб адстаўцы.

У мэтах каардынацыі працы па абароне інтэрасаў расейска-беларускага жыхарства Літвы прызнана патрэбным супрацоўніцтва, а мо быць і аб'еднаным расейска-беларускай групе з прэзыдыумам (маючага быць рэарганізаваным) Расейск. Дэмакрат. Саюзу.

Выбрана дэлегацыя для навязаньня стасункаў з сябрамі фракцыяў новага Сойму і групай меншасьцяў. На падставе статуту Сойму дэлегацыя будзе дамагацца, каб на паседжаньні камісіяў Сойму ( ў выпадку, калі будуць разглядацца пытаньні, датычучыяся інтэрасаў расейска-беларускага жыхарства) запрашаліся ў паўнаважаныя дэлегаты нашага жыхарства.

Для падгатоўкі належных заяў і чарговай працы **заложан шэраг камісіяў: 1) камісія абароны правоў грамадзянства, 2) зямельная камісія, 3) асьветовая камісія, 4) царкоўная камісія і 5) камісія фінансавай узаемнай дапамогі (кааперацыя і інш.).**

На бліжэйшым тыдні камісіі распачнуць сваю працу. Адраса сталаґа яны, покуль што, не маюць. У выпадку бягучых патрэб прапануецца нашаму жыхарству зварочвацца або да сяброў расейска-беларускай групы Рагэвіча і Сафронава (адрас іх: Kaunas, Žaliasai Kalnas, Kareivių pl. 32 Nr., prad mokykla), або да ініцыятыўнай групы па ўтварэньню Белор. Нацыянальнага Камітэту ў Літве (Kaunas, Ukmergės pl. Nr. 94-3, Golovinski). Яны параюць, што належыць, у якую камісію, да каго і ў які час зьвярнуцца.

Папераджаем, што трэба пачынаць складаць прыгавары аб адчыненьні беларускіх пачаткавых школ. Для адчыненьня пачаткавай школы патрэбна, каб было неменьш 32 дзяцей школьнага ўзросту ад 7—14 гадоў; з дазволу Міністэрства Асьветы можна адчыніць школу і пры меньшым ліку вучняў Трэба саставіць прыгавар і сьпіс дзяцей, падпісаць усім і падаць у валасную раду. (тарыбу)

Форма прыгавара:

1926 г. . . . . . . . . месяца . . . дня.

Мы, ніжэйпадпісаўшыяся, грамадзяне-беларусы . . . . . . . . . . вескі, . . . . . . . . павету, . . . . . . . . . воласьці жадаем заложыць у нашай вёсцы беларускую пачаткавую школу ў восень гэтага 1926 г.

Калі валасная тарыба будзе адмаўляцца тым, што німа сродкаў наняць памешканьне пад школу і зрабіць абсталяваньне, то Вы дадайце да прыгавару:

„Пры гэтым бярем на сябе абавязак даць памешканьне пад школу і абсталяваць яе“.

Форма сьпіса:

Сьпіс

дзяцей школьнага ўзросту . . . . . . . . вёскі, . . . . . . . павету, . . . . . . . . вол.

| №№ па парад. | Імя і прозьвішча | Колькі гадоў | З якой мейсцовасьці | увага |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Мікалай Нічыпарчук | 8 | Даўгердзішкі | |

Памятуйце, што побач з Літоўскай Дзяржавай жывуць не расейцы, а беларусы, маючыя сваю дзяржаўную — нашу родную—беларускую мову. Нам трэба яе ведаць і сорамна чурацца сваёй пісьменнасьці. Ведаючы добра сваю мову, мы

заўсёды патрапім лёгка зразумець і расейскую і польскую мову, пасколькі яны могуць быць патрэбны каму-небудзь з нас для ўжытку.

---

Старшынёю Сойму выбран д-р Стаўгайціс, які ў сваёй прамове паміж іншым сказаў: **„Клапоцячыся аб справах** краю, **ня трэба забываць і пра Вільню“.**

---

# Радавая Беларусь.

## Аб звароце архіваў БССР.

Савет Народных Камісараў прызнаў неабходным асыгнаваць сродкі на перавоз беларускіх архіваў з розных мясцовасьцей СССР.

Центральнаму Архіву БССР і Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў даручаецца ўключыць патрэбныя выдаткі на гэту мэту.

## Лісты Алеся Гаруна.

На мінулым тыдні ў літературную камісію ІБК адзін з беларускіх культурнікаў перадаў 6 лістоў нябошчыка паэты Гаруна, пісаныя ім з Сібіры А. Бурбісу, якія зьмяшчаюць у сабе цікавые даныя аб жыцьці ссыльных беларусаў і літаратурных працах самога пісьменьніка.

## Музэй прыроды.

У Інбелькульце за часы яго існаваньня назьбіралася шмат каштоўных матар‘ялаў па геолёгіі, батаніцы, мінэралёгіі, картаграфіі, геолёгіі і інш. Для захаваньня ўсіх гэтых рэчаў патрэбна арганізаваць музэй прыроды Беларусі.

Інбелкульт вядзе перамаўленьні з Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам аб выкарыстаньні для арганізацыі музэю памяшканьня.

## Новы вучоны сэкрэтар ІБК.

З прычыны назначеньня тав. Дыла дырэктарам Беларускага Дзяржаўнага Тэатру, вучоным сэкратаром Інбелкульту назначан А. Цьвікевіч.

### Удзел Інбелькульту ў сусьветным бібліграфічным зьезьдзе.

У чэрвені гэтага году мае адбыцца ў Празе Чэскай сусьветны зьезд па бібліяграфіі і выстаўцы кніг.

Арганізатары зьезду зьвярнуліся з просьбай да ІБК выслаць усе вышаўшыя ў сьвет выданьні і свайго прадстаўніка. Прэзыдыум Інбелькульту пастанавіаў паслаць на зьезд усе выданьні Інбелькульту і падняць пытаньне аб камандыраваньні прадстаўніка ад Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі

### Ахова помнікаў старажытнасьці.

Прэзыдыум Інбелкульту разглядаў пытаньне аб ахове помнікаў старажытнасці, прыроды, мастацтва і культуры. Пастаноўлена скласьці сьпісы помнікаў старажытнасьці і абвясьціць іх дзяржаўнай маёмасьцю. Ахова помнікаў паводле гэтага сьпісу будзе даручана акруговым выканаўчым камітэтам. Назіраньне за аховой помнікаў укладаецца на камісію па ахове помнікаў ІБК, без дазволу якой ня можна відазьмяняць, або папраўлаць іх.

### Аб арганізацыі знаканамічна-дасьледчага інстытуту.

Зараз паўстае пытаньне аб зрганізацыі пры Інбелкульце інстытуту эканамічных досьледаў, якія маюць сваёй мэтай абхапіць у сваёй працы ўсе галіны народнай гаспадаркі БССР.

### Укладаньне тэрміналёгіі для шыльдаў.

Прэзыдыум ІБК зацьвердзіў камісію па ўкладаньню тэрміналёгіі надпісаў на шыльдах і абвестках пабеларуску і на мовах нацменшасьцяў.

## Саўхозы ў пасяўной кампаніі.

### Дапамога насеньнем.

Дзеля палепшаньня якасьці сялянскага пасяўнога матар'ялу Наркамзем вызначыў абмяняць і прадаць праз саўхозы ў наступную вясну палепшанага насеньня: аўса—26 650 пуд., ячменю—5.500 п., канюшыны—1.614 п., вікі, сэрадэлы і інш.—3.234 п., жыта—71.560 п., пшаніцы—5.890 п. і 10.000 прышчэпаў.

## Пракатныя пункты.

Для забясьпекі сялянства с.-г. машынамі і прыладамі саўхозы маюць адпусціць на пракат: плугоў—3273, барон — 3.058, пружыновак—274 і іншых с-г. прыладау –2731.

Апроч таго, у 30 гаспадарках розных райёнаў будуць арганізаваны рамонтныя майстэрні.

## Загатоўка насеньня.

Менскі акругові камітэт сялянскай узаемадапамогі запрапанаваў усім камітэтам і таварыствам сялянскай узаемадапамогі распачаць загатоўку насеньня.

Вядуцца перамаўленьні з цэлым шэрагам савецкіх гаспадарак аб набыцьці і абмене ў іх патрэбнага насеньня.

## Дапамога дзяржавы.

Урад БССР асыгнаваў беззваротныя сродкі на закупку насеньня для камітэтаў узаемадапамогі. Набыцьцё насеньня вядзе Белкаапсаюз ў Арлоўскай губ.

Насеньне будзе выдавацца пазычкова да восені, а пасьля варочаецца ў фонд камітэтаў узаемадапамогі.

## Закупка коняў.

Дзеля набыцьця коняў для бясконных гаспадарак робяцца захады, каб каапэраваць тых сялян, якім патрэбны коні. Для гэтай мэты 10 проц. усіх фондаў к-таў узаемадапамогі пойдзе на каапэраваньне такіх гасп дарак.

## Калектыўная апрацоўка зямлі.

Менскі акругові камітэт сялянскай узаемадапамогі запрапанаваў арганізоўваць талаку для апрацоўкі зямлі бясконных гаспадарак. Для гэтага ўсе гаспадары сябры к-таў узаемадапамогі, якія маюць коні, павінны працаваць па 2 дні (у працягу году) па калектыўнай апрацоўцы зямлі.

## С.-г. машыны

Загатоўлена плугоў розных—46,701 шт., акучнікаў—3,390, баронаў—155.600, палольнікаў і культіватараў—194, сеялак—176, жняярак і снопавязалак—115, сенакасілак 66, малатарняў і канюшынацёрак—3.551, прывадоў—979, арфаў і сарцір. машын—1,761 і саламарэзак 4.930.

А ўсяго на суму—1.831.470 р. (101,5 пр. заданьня).

Загатоўлена кос —200.387, сярпоў — 89.983 і вілаў — 100.755.

А ўсяго на суму—1,183010 руб. (105 пр. заданьня).

## Насенны матар'ял

Загатоўлена канюшыны—9.462 пуд, цімафэяўкі— 815 п., сэрадэлы—4,902 п., вікі —15.618 п. і лубіну—18.209 п.

А ўсяго на суму—324.019 руб. (137 проц. заданьня).

## Угнаеньні.

Загатоўлена супэрфасфату—313,207 пуд., фасфарытнай мукі—25.009 п., калійнай солі—6 318 п., трысялі— 3159 п. і тамасшлаку—10.717 п.

А ўсяго на суму—341.903 руб. (30,5 пр. заданьня.)

## Іншыя рэчы.

Апроч таго, загатоўлена сродкаў барацьбы са шкоднікамі на суму —11.780 руб., млыннага і маслабойнага абсталяваньня на 290.819 руб., мэталаў з мэталічнымі вырабамі на 1.201.124 руб.

А ўсяго на суму—5.208.160 руб. (96,1 пр. заданьня).

## Крэдыты на насеньне.

Белсельбанк пастанавіў выдаць акругам крэдыт на насеньне ў суме 295.000 руб.

Гэты крэдыт мяркуецца гетак: Менская акруга 34.000 руб. Барысаўская-18.000 р. Слуцкая 25.000 р., Бабруйская-32.000 р., Мазырская—6.000 руб., Магілёўская—39 000 р.. Аршанская—32 000 р., Калінінская—30.000 р., Віцебская—48.000 р. і Полацкая 31.000 р.

## Пазыка на с.-г., машыны, коні, жывёлу і угнаеньні.

Да наступнай веснавой пасеўнай кампаніі Белсельбанк мае адпусьціць сялянству: на пакупку коняў—125.000 р., на с.-г. машыны — 113.000 р., на с.-г. будоўлю 17..000 р., на земляўпарадкаваньне — 180.000 р., на мінэральнае ўгнаеньне —60.000 р., на буйную рагатую жывёлу—50.000 р., на пладовыя выхавальнікі—15.000 р. і на пчалярства —15.000 рублёў.

# Па наркамзему.

### Мэліарацыя.

Наркамзем прыступае да правядзеньня ў акругах мэліарацыйных работ, якія намечана правесьці бягучым летам.

Рэгуляваньне рэк будзе зроблена ў гэткім абхваце: на Бабруйскай акр.—працягам 7 в. 451 саж., Барысаўскай—4 в., Віцебскай—11 в. 64 с., Калінінскай—6 в. 321 с., Менскай—7 в. 250 с., Магілеўскай—20 в., Аршанскай—18 в. 33 с., Полацкай—12 в. і Слуцкай—1 в. 417 с. Агулам—97 в. 45 с.

На гэту справу патрабуецца 245489 р.

Капітальны рамонт каналаў па акругах выявіцца ў наступным: па Мазырскай акр.—28 в. 324 с. і Бабруйскай—3 в. Агулам—31 вярста 324 с Выдаткі патрабуюцца ў суме 59227 р.

Па вестках Наркамзему, лік мэліарацыйных таварыстваў па БССР зараз дасягае 234, налічваючых 9.648 сяброў — на плошчы ў 17.238 дзес.

### Ачыстка насеньня.

Па загаду Наркамзему, саўхозы БССР арганізавалі пункты для бесплатнай ачысткі сялянскага насеньня.

Усяго працуе машын: трыераў— 53, машын „Трыумф“—74 і арфаў—157.

Пункты маюць ачысьціць да 200.000 пудоў сялянскага насеньня.

### Санітарныя лекцыі па радыё.

Прадстаўнікі НК Аховы Здароўя па нядзелях чытаюць санітарныя лекцыі па радыё. Такіх лекцый арганізован цэлы цыкл. Па радыё даюцца і адказы на пытаньні.

### Лячэбніцы і кузьні.

Наркамзем асыгнаваў 100.000 руб. на пабудаваньне ў акругах вэтэрынарных лячебніц і кузьняў пры іх для паказальнай коўкі коняй.

---

# Заходня Беларусь.

### Вільня аб Пілсуцкім.

У № 24 ад 23/IV сёл. г. часопісі „Белар. справа“ зьмешчан артыкул пад назвай „Замах справа, ці замаха злева“, гдзе

разглядаецца склаўшаяся у Польшчы, перад выбухам Пілсуцкага, палітычная сітуацыя. Газэта зазначае, што Польшча заменяець апекунаў францускіх на ангельскіх, і што гэтую справу правесьці ў жыцьцё ўзяўся Пілсуцкі.

На запытаньне, што здоляе даць Пілсуцкі працоўным места і вёскі, газэта адказвае гэтак:

„П. Пілсудскі з сваей „лявіцай“ у Сойме ды арміяй у Краі ў працягу 5—6 гадоў меў ужо раз вялізарную, амаль нічым не абмяжованую ўладу ў Польшчы. Дык, значыць, мог тады зрабіць усё, што хацеў. Мог тады „Начальнік Дзяржавы“ Пілсудскі даць працоўным у Польшчы ўсё тое, што лічыў для іх патрэбным. Дык вось трэба сьпярша адказаць на пытаньне, што ён даў тады, а тады ўжо лёгка будзе адказаць і на пытаньне, чаго ад яго спадзявацца цяпер.

Чаго-ж хацеў тады і што даў народу тады Пілсудзкі?

„Я пайду з маімі арміямі на Усход так далёка, як захачу“... Вось чаго хацеў тады Пілсудскі... Дык і даў працоўнаму народу толькі і выключна тое, чаго хацеў, што мо‘ найбольш любіць сам: Вайну, Бойню, Кроў, кінуўшы ўкаханы „польскі люд“ на ратаваньне польскага абшарніцтва ў Польшчы ды на Усходзе...

Пілсудскі любіць раўнаваць сябе з Наполеонам... Можа, яны крыху і падобны, прынамся абодва—не шкадавалі чалавечай крыві... Але вялізарная розьніца між імі ня толькі ў тым, што Наполеон—геній і ваенны, і цывільны, але яшчэ і ў тым, што Наполеон, зьявіўшыся пасьля Вялікай Францускай Рэвалюцыі, увасобіў у сабе ўсю яе сілу—зьдзейсьніў ды ажыцьцявіў шмат з яе ідэяў і лёзунгаў.

Пілсудскі можа даць і цяпер—толькі і выключна Вайну.

Але цяпер—каму-ж ня ясна?!—гэтая вайна ўжо толькі даканчыла-б тую руіну дзяржавы, якой той-жа п. Пілсудскі не пасьпеў неяк давясьці да канца вайной 1920 г.,—бо тады „перашкодзіла Францыя... Цяпер—мо‘ дапаможа Англія?!

Цяпер п. Пілсудскі можа, як унутры, так і вонках, згуляць толькі „гістарычную ролю“ Керэнскага...—Польская армія мо‘ і пойдзе за ім на фронт, ведама-ж—на „Усходні фронт“... Але—ці не пачнецца там тое-ж, што было і ў часе Керэнскага: братаньне працоўных?!...

Што гэткую „спробу“—апошнюю спробу!—можа і захоча зрабіць з Польшчай п. Чэмбэрлен... перапрашаю: хацеў

сказаць; п. Пілсудскі,—гэта можа і вельмі падобна да праўды...—Бо—ці ж не ў зьвязку з гэткімі шырокімі агульнымі плянамі „паходу на ўсход“ заварушыліся раптам і расейскія манархісты, выбраўшы сабе ўжо—акурат, як у часе вайны!—і Аўгусьцейшага Вярхоўнага Камандзіра“?!

**„Беларуская справа“ № 10 ад 22/V-26 г.**

„Пад той час, як вялізарная большасьць польскае буржуазіі—ад абурэньня з прычыны пагрозы яе дыктатарскай уладзе-прост ашалела і крычыць аб судзе і кары для „бунтаўшчыка“,—больш разумная частка яе зразумела, што „ліквідаць“ Пілсудскага, як павадыра апазыцыі, трэба інакш. Так, орган польскіх манархістаў „Slowo“ зусім выразна праводзе думку, што „ўнешкадлівіць“ Пілсудскага, які мае за сабой аружную сілу, трэба ня шляхам барацьбы з ім, а шляхам свайго роду „прысваеньня“ яго буржуазіяй... Актывізацыя масаў пайшла гэтак шыбка ўперад, што цяпер ужо гутарка можа йсьці зусім не аб тым, хто пойдзе з Пілсудскім ці за Пілсудскім, а аб тым, з кім ён Пілсудскі, пойдзе да адбудовы зруйнаванага буржуазіяй жыцьця Польшчы. І ад таго, што п. Пілсудскі адкажа, які зробіць выбар, будзе залежаць і яго далейшая гістарычная роля,— ці то **роля новага Войцеховскага,** ці роля барацьбіта за працоўны народ і ягонага правадыра“.

„Кгупіса“ № 17 ад 23/V-26 г. аб выбуху Пілсуцкага піша: „...з гэтага перавароту бадай цалком немагчыма спадзявацца зьмены ў польскай палітыцы на лепшае, як для народных меншасьцяў, так і агулам для Польшчы. Усё ў Польшчы пасьля крывавых варшаўскіх здарэньняў ізноў становіцца на стары шлях. А шлях гэты нам добра вядомы, як самы дрэнны.

Я. Пілсуцкі астаўся сабой самым. Ен здольны да таго, каб зрабіць прыгожы гест, сказаць важныя словы, але гэтыя гесты і гэтыя словы ўвесьці ў жыцьцё ён ня здольны“.

**Маніфестацыя ў чэсьць Пілсуцкага ў Вільні.** У зьвязку з выбухам і захватам улады Пілсуцкім яго прыхільнікамі была зроблена маніфестацыя. „Прынялі удзел“ ў ёй і беларусы, вышаўшыя, як паведамляюць польскія газэты, з плакатам „Далоў акупантаў!“ Польскім акупантам гэта надта не спадобалася, і распачалася бойка, вынікам якое каля 60 беларусоў было заарыштавана.

## Латвія.

Беларусы Латвіі вельмі незапакоены сучасным становішчам Белар. Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы. Іх дамаганьня —замены кіраўніка Б. Аддзелу Зеліта на кандыдата, выбранага самым грамадзянствам, покуль што, не далі пажаданых вынікаў.

Улада не згаджаецца зацьвердзіць на гэтую пасаду кандыдата ад беларускіх арганізацыяў К. Езавітава. Цяперака грамадзянства выставіла 4 дадатковых кандыдаты—Пігулеўскага, Сахарава, Плыгаўку і Радзько і чакае, на каго ўрад зьверне свае міласлівае вока.

## Чехаславакія.

Кола пражскіх паступовых студэнтаў пачало выдаваць часопісь „Прамень". Часопісь яскрава выяўляе акрэсляны грунтоўны палітычны кірунак. Зьвяртае на сябе ўвагу добра распрацаваны інфармацыйны аддзел. Лічым, што студэнства не забудзе і сталага жыхарства Літвы, патрабуючага дапамогі ў справе арганізацыі і нацыянальнага ўсьвядамленьня.

Вітаем актыўнасьць нашай моладзі і жадаем посьпеху.

---

Redaktorius-leidėjas **E. Gaidukevičius.**

Рэдактар-выдавец **Е. Гайдукевіч.**

# Галоўныя памылкі:

| Надрукавана | Павінна быць | стр. | радок зьверху |
|---|---|---|---|
| Новый | Новы | 1 | 1 |
| и | і | 1 | 2 |
| силы | сілы | 2 | 20 |
| зьдейсьніць | зьдзейсьніць | 2 | 21 |
| усих | усіх | 2 | 23 |
| становйшча | становішча | 3 | 4 |
| прзывам | прызывам | 3 | 9 |
| Пілсуцкага | Пілсуцкага | 3 | 14 |
| крівавае | крывавае | 3 | 20 |
| Павинны | Павінны | 3 | 25 |
| сучасці | сучасьці | 5 | 34 |
| Віленчыны | Віленшчыны | 6 | 21 |
| „ | „ | „ | 24 |
| імкненыя | імкненьня | 7 | 9 |
| ёсць | ёсьць | 9 | 11 |
| іннтэнсіфікацыі | інтэнсіфікацыі | 9 | 13 |
| перспектыў | перспэктыў | „ | 14 |
| каба | каб | 12 | 1 |
| кпіталізаваць | капіталізаваць | 12 | 1 |
| зьяўмяецца | зьяўляецца | 12 | 25 |
| и | і | 12 | 30 |
| характер | характар | 12 | 38 |
| патрэбнага | непатрэбнага | 15 | 7 |
| хварабаю | хваробаю | 15 | 15 |
| сучасной | сучаснай | 16 | 2 |
| сучаспасьці | сучаснасьці | 16 | 7 |
| імерыялістычная | імперыялістычнея | 16 | 19 |
| dezenterasman | desinterssement | 19 | 34 |
| канкрэцізаваньня | канкрэцізаванага | 20 | 14 |